Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА



18 мая 1991 г. СУБОТА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

№ 96 (21624)

Цана 10 кап.

## Камуністы рыхтуюцца да сесіі

У Гомелі адбылася нарада членаў бюро абкома і прэзідыума кантрольнай камісіі абласной партыйнай арганізацыі, першых сакратароў гаркомаў і райкомаў партыі, камуністаў — дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР. У нарадзе прынялі ўдзел член Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў і сакратар ЦК КПБ В. Ціхіня, які выступіў з дакладам.

Адбылася зацікаўленая размова аб праграме і тактыцы камуністаў — народных дэпутатаў на чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Адзначалася, што палітычная абстаноўка ў рэспубліцы працягвае заставацца напружанай і ад кожнага камуніста — народнага выбранніка патрабуецца асаблівая адказнасць за падрыхтоўку і прыняцце рашэнняў на сесіі.

У гэты ж дзень адбыўся сход абласнога партыйна-гаспадарчага актыву, на якім выступіў А. Малафееў. Ён падкрэсліў, што ва ўзнікшай сітуацыі неабходна актывізавацца ўсім партыйным камітэтам, настойліва шукаць новыя формы і метады ўплыву на эканамічнае жыццё прадпрыемстваў, выключаючы пры гэтым усякі дыктат.

З праектам антыкрызіснай праграмы прысутных азнаёміў намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі С. Лінг. Удзельнікі сходу ў цэлым адобрылі праект дакумента. Аднак крытычна выказаліся па раду яго палажэнняў. На іх погляд, у праграме недастаткова дакладна размежаваны і вызначаны паўнамоцтвы прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання. Не прасочваецца сацыяльнай і эканамічнай абароненасці кіраўнікоў, а кантрактная сістэма, якую прапануюць распрацоўшчыкі праграмы, наўрад ці можа поўнасцю апраўдаць ускладаемыя на яе надзеі.

На сходзе выступіў першы сакратар Гомельскага абкома КПБ А. Грахоўскі.

На наступны дзень А. Малафееў прыняў удзел у семінарынарадзе ў Добрушскім раёне. Тут былі разгледжаны пытанні далейшай работы аграпрамысловага комплексу, а таксама гандлёвага забеспячэння сельскіх працаўнікоў Гомельшчыны. Удзельнікі семінара знаёміліся з работай прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання пасёлка Карма і горада Добруш, пабывалі ў калгасе «Абарона» і саўгасе «Насовічы».

***

Перад паездкай на Гомельшчыну А. Малафееў наведаў Віцебскую вобласць.

(БЕЛТА).

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

МІНСК

### АЎТАМАГНІТОЛА ПА-ЯПОНСКУ

**Прыёмачная камісія Гродзенскага ВА «Хваля» зацвердзіла акт гатоўнасці да серыйнай вытворчасці новай аўтамагнітолы «Гродна РМ-312 СА».**

Дыяпазон частот новай магнітолы даходзіць да 16 кілагерц пры мінімальнай дэтанацыі. Несумненная навінка апарата — «аўтарэверс» які дазваляе праслухоўваць два бакі касеты з адной запраўкі. Пасля перамоткі стужкі магнітафон ажыццяўляе запіс без дадатковай каманды. Найбольш важныя камплектуючыя дэталі пастаўлены з Японіі. Доследная партыя — 60 магнітол — была сабрана без сур'ёзных дапрацовак, так што ў трэцім квартале гэтага года новая мадэль магнітолы заменіць на канвееры старую.

### АБ СТАНОВІШЧЫ Ў ПРЫБАЛТЫЦЫ

**Учора журналісты былі запрошаны на прэс-канферэнцыю, якую давалі народныя дэпутаты і прадстаўнікі грамадскіх арганізацый Літвы, Латвіі і Эстоніі. Усе яны з'яўляюцца членамі рэспубліканскіх кампартый, якія стаяць на пазіцыі КПСС, і гэта ў многім абумовіла тэматыку размовы і яе тон.**

Адказваючы на пытанні, члены дэлегацый прыбалтыйскіх рэспублік адзначылі, што тая мадэль перабудовы, якая была абвешчана ў 85-м, тут вылілася ў супрацьстаянне як палітычнае, так і міжнацыянальнае. І гэта народам, якія насяляюць Прыбалтыку, прынесла толькі нягоды. У кожнай з трох рэспублік сацыяльныя праблемы працоўных адсоўваюцца нават не на другі, а на дзесяты план. А на першы выступаюць працэсы прыватызацыі, перадачы зямлі былым уладальнікам, вызначэння крытэрыяў для «прысваення» грамадзянства.

Дэмакратыя, па словах прадстаўнікоў кампартый, у трох рэспубліках дазволена толькі народнафронтаўскім арганізацыям, у адносінах да кампартый яна ператварылася ў самую сапраўдную дыктатуру.

**Наш кар.**

● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ

### ЗДРАЎНІЦЫ Ў ГАРАХ

**РЭЧЫЦА. (У. Пернікаў). Чорныя хмары Чарнобыля не абмінулі і горад над Дняпром. Забруджанасць радыенуклідамі пагаршае здароўе яго жыхароў, стварае адмоўны псіхалагічны фактар. Аб гэтым і ішла гаворка на чарговай сесіі Рэчыцкага гарсавета. І вось у Кабардзіна-Балкарыю выехаў старшыня гарвыканкома М. Заразака. Забягаючы наперад, зазначым, што Мікалай Мікалаевіч ездзіў туды неаднойчы. Сустракаўся з кіраўнікамі абласнога савета прафсаюзаў, курортнага савета, будаўнічых арганізацый і кожны раз знаходзіў у іх разуменне, жаданне дапамагчы тым, хто пацярпеў ад чарнобыльскай бяды.**

Якія ж вынікі гэтых паездак і сустрэч? Заключаны шэраг дагавораў на супрацоўніцтва ў будаўніцтве аздараўленчых баз. Сёлета, напрыклад, працягваецца ўзвядзенне ў Нальчыку спальнага корпуса санаторыя імя Кірава. Горад над Дняпром пералічыў туды 2,5 мільёна рублёў у дадатак да тых паўтара мільёна, якія былі асвоены летась.

Характэрная дэталь. У будаўніцтве прымаюць удзел усе прадпрыемствы і арганізацыі Рэчыцы: адпраўляюць патрэбныя матэрыялы, накіроўваюць на работу людзей. Будаўніцтва спальнага корпуса мяркуецца завяршыць сёлета, а пачынаючы з наступнага года гараджане будуць атрымліваць туды па 3.775 пуцёвак штогод на аздараўленне і адпачынак.

— Сёлета мы маем магчымасць атрымаць 20 месц на горнай базе «Шхельда», якая будуецца ў вельмі маляўнічым месцы Прыэльбрусся, — расказвае Мікалай Мікалаевіч. — Там жа, але ўжо на другой базе, нам будуць выдзелены 15 месц. Гэта канкрэтная рэальнасць, бо ў «Шхельдзе» заканчваюцца ўжо адзелачныя работы.

У стадыі вырашэння знаходзіцца пытанне аб удзеле горада ў будаўніцтве гасцініцы «Інтурыст» на 340 месц за пяць кіламетраў ад Эльбруса. Тут трэба асвоіць чатыры мільёны рублёў. Мяркуецца, што прыбытак ад эксплуатацыі гасцініцы, якая, вядома, пуставаць не будзе, складзе значную суму. Яго падзеляць Нальчык і Рэчыца ў залежнасці ад укладзеных у будаўніцтва сродкаў.

### АБ АДКРЫЦЦІ ЧАЦВЁРТАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

Адкрыццё чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання адбудзецца 21 мая 1991 года ў 10 гадзін раніцы ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Беларускай ССР у Доме ўрада.

### ДА ВЕДАМА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Рэгістрацыя народных дэпутатаў Беларускай ССР, якія прыбылі на чацвёртую сесію, будзе праводзіцца 20 мая 1991 года з 8 гадзін да 22 гадзін у Доме ўрада (2 паверх, фае залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Беларускай ССР).

## У. ГАНЧАРЫК: «Мы не будзем падыгрываць стачкомам»

Актуальнае інтэрв'ю

**На першы погляд, рэспубліка жыве ў звычайным рытме: сее, шые, выпускае машыны, гадзіннікі, тэлевізары, вучыцца, адзначае святы... Але, нібы нарыў, выспявае ў людзях чаканне 21 мая — дня, калі пачне работу чарговая сесія беларускага парламента і калі можа аднавіцца стачка. Ці зразумеюць дэпутаты і людзі на плошчы адзін аднаго! Гэта хвалюе сёння многіх. І асабліва — прафсаюзы, на якіх таксама ляжыць вялікая доля адказнасці за тое, куды «занясе» рабочы рух. Аб напружанасці моманту і гутарыць карэспандэнт БЕЛТА са старшынёй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімірам ГАНЧАРЫКАМ.**

**— У апошні час у вас, Уладзімір Іванавіч, было нямала сустрэч у працоўных калектывах. Як вы ацэньваеце настрой рабочых?**

— Сёння з вялікай доляй верагоднасці магу сказаць: стачачны энтузіязм ідзе на спад. Людзі стаміліся ад заклікаў, лозунгаў і хочуць працаваць. Але так, каб іх праца была рэальна аплачана. Адсюль і пазіцыя прафсаюзаў: унесці, з улікам патрабаванняў працоўных калектываў, свае прапановы ў антыкрызісную праграму ўрада. Вярхоўны Савет рэспублікі, відаць, будзе разглядаць яе ў першую чаргу. Мы падрыхтавалі пакет сваіх патрабаванняў. Перш за ўсё, будзем дабівацца раздзяржаўлення і прыватызацыі ўласнасці, каб рэальна рушыць наперад эканамічную рэформу. Гэта прапанова ўбірае ў сябе многае з таго, што выстаўлялася стачачнымі камітэтамі ў радзе эканамічных патрабаванняў.

Другая па важнасці, на наш погляд, праблема, здольная зняць напружанасць у грамадстве, — падаткаабкладанне. Трэба прадаставіць ільготы прадпрыемствам, якія выпускаюць тавары шырокага спажывання, каб насыціць рынак, зняць татальны дэфіцыт. Дзеля гэтага можна пайсці і на закупкі за рубяжом, выкарыстоўваць бартэр.

Наступная прапанова прафсаюзаў — падрыхтаваць і правесці поўную рэформу заработнай платы з улікам кампенсацыі кошту рабочай сілы на рынку працы. Усе гэтыя патрабаванні мы прадставім парламенту і перададзім для абмеркавання ў працоўныя калектывы. Адсюль вывад: ні 21 мая, ні пазней прафсаюзы не будуць заклікаць да стачачнай барацьбы. Наадварот, пастараемся пераканаць людзей не спыняць вытворчасць.

**— Ці ўзаемадзейнічаеце вы са стачачнымі камітэтамі?**

— Мы не маем намеру падыгрываць стачкомам. Праводзілі і будзем праводзіць уласную палітыку абароны інтарэсаў і правоў працоўных. У той жа час многія прафсаюзныя актывісты з'яўляюцца членамі стачкомаў або пастаянна ўдзельнічаюць у іх рабоце. Вось і 11 мая нашы таварышы былі запрошаны на канферэнцыю стачачных камітэтаў рэспублікі. У нас з імі ёсць агульныя пазіцыі ў адносінах да работы Вярхоўнага Савета. Гэта і зацікаўленасць, каб будучая сесія прыняла Закон аб прафсаюзах. Стачкомы цяпер распаўсюджваюць статуты розных незалежных прафсаюзаў, ідзе іх стварэнне. Значыць, трэба ўпарадкаваць нашу дзейнасць у адпаведнасці з законам. У стачкомаў і прафкомаў таксама агульнае імкненне да таго, каб было ўдасканалена працоўнае заканадаўства. Праўда, адносна забастовак у стачкомах думкі разыходзяцца. На сённяшні дзень там выразна праявіліся два падыходы: канструктыўны дыялог і ў процівагу — толькі націск, толькі дыктат.

**— Так, цяпер наш рабочы рух шматаблічны, сумбурны, яго захліствающь эмоцыі. А якая, Уладзімір Іванавіч, асабіста ваша, як прафсаюзнага лідэра, ацэнка разбуджанай самасвядомасці рабочых?**

— Калі людзі патрабуюць стварыць умовы, каб кожны мог свабодна, эфектыўна працаваць і адпаведна атрымліваць за работу, — гэта справядліва. Але калі сюды прымешваюцца нецярпенне, максімалізм і дыктат — гэта небяспечна. Вопыт заходніх краін паказвае: арганізаваны рабочы рух стаў адным з важных фактараў сацыяльна-эканамічнага развіцця грамадства. Сувымяраючы свае магчымасці і дзеянні, працоўныя дабіваюцца ўсё новых сацыяльных заваёў, якія ў корані мяняюць становішча наёмных рабочых, умовы іх жыцця і працы. Цяпер працоўныя развітых краін менш бастуюць. Яны пераканаsuccessfully: забастоўка — крайняя, надзвычайная мера. Такая і наша пазіцыя: абараняючы правы рабочых на забастоўку, аддаваць перавагу перагаворам і на аснове законных дэмакратычных працэдур дабівацца кампрамісных рашэнняў з улікам не толькі класавых інтарэсаў, але і ўсяго грамадства.

**— Такім канструктыўным кампрамісам можна лічыць, напрыклад, нядаўна падпісанае пагадненне паміж урадам рэспублікі і ФПБ аб абароне сацыяльна-эканамічных правоў і інтарэсаў працоўных?**

— Безумоўна. Па-першае, пагадненне ўлічвае прапановы працоўных калектываў, многія з якіх нарадзіліся ў час красавіцкіх падзей. І таму яно павінна мець сур'ёзнае значэнне для стабілізацыі эканамічнага і палітычнага жыцця рэспублікі. У дакуменце можна выдзеліць некалькі важных палажэнняў, якія датычаць жыцця літаральна кожнага чалавека. Гэта і цана рабочай сілы, і вызначэнне памераў пенсій, стыпендый, мінімальнай заработнай платы і спажывецкай карзіны. Важна, што для вырашэння гэтых пытанняў вызначаны канкрэтныя тэрміны: літаральна месяц-два.

Другі блок пытанняў гарантуе магчымасць працаваць і зарабляць. У нашым пагадненні ўпершыню змяшчаецца такі падыход, скажам, як забарона масавых звальненняў працоўных да прыняцця закона аб занятасці насельніцтва. Гаворыцца і аб паскарэнні працэсу раздзяржаўлення ўласнасці на карысць працоўнага калектыву, кожнага грамадзяніна і з абавязковым удзелам прафсаюзных камітэтаў. У дакуменце прадугледжаны таксама падатковыя льготы тым прадпрыемствам, якія ствараюць новыя рабочыя месцы, пашыраюць выпуск тавараў шырокага спажывання.

Трэба выдзеліць у пагадненні і групу сацыяльных праблем. Але я не сказаў бы, што гэты дакумент усеабдымны і дае адказ на ўсе пытанні. Прадугледжана магчымасць дапаўняць і кантраляваць яго абодвум бакам, якія падпісаліся пад ім. Мы, напрыклад, маем намер у хуткім часе разгледзець на пленуме ход выканання пагаднення. І калі Савет Міністраў не выканае сваіх абяцанняў або сарве агавораныя тэрміны, тады мы заклічам працоўных да канстытуцыйных дзеянняў, каб прымусіць урад выканаць нашы патрабаванні.

І яшчэ. Калі з-за адсутнасці працоўнай дысцыпліны не будзе рухацца наперад эканамічная рэформа, многае з таго, што запісана ў дакуменце, павісне ў паветры. Вось чаму задача прафсаюзаў сёння заключаецца ў тым, каб садзейнічаць развіццю вытворчасці, стварэнню ўмоў для свабоднай і плённай работы.

**Гутарку вяла В. МЕНШЫКАВА.**

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

Магчыма, ужо скора ў Беларусі будзе свой прэзідэнт. Першы крок для гэтага зроблены 16 мая на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, які абмеркаваў праект парадку дня чарговай сесіі. Па прапанове Уладзіміра Леўчыка, Аляксандра Кулічкова і іншых членаў Прэзідыума было вырашана вынесці пытанне аб прэзідэнцкай форме кіравання ў БССР на разгляд чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета.

На ёй прадугледжваецца абмеркаваць больш за 30 пытанняў. Сярод першарадных — праект праграмы ўрада Беларусі па стабілізацыі эканомікі. Як паведаміў прэм'ер Вячаслаў Кебіч, гэты дакумент атрымаў новую назву «Праект Дзяржаўнай праграмы стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароны насельніцтва рэспублікі». Такое змяненне не выпадковае — у аснову праграмы ставіцца сацыяльная абарона чалавека. Будуць разгледжаны таксама законапраекты аб асновах раздзяржаўлення і прыватызацыі, аб надзвычайных мерах па выкананню бюджэту рэспублікі на другое паўгоддзе гэтага года, аб пераразмеркаванні паўнамоцтваў паміж вышэйшымі дзяржаўнымі органамі Беларускай ССР для забеспячэння стабілізацыі пры пераходзе да рыначнай эканомікі і іншыя.

Члены Прэзідыума выказалі прапанову, каб Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Мікалай Дземянцей выступіў пры адкрыцці сесіі з аналітычным паведамленнем аб грамадска-палітычнай абстаноўцы ў рэспубліцы.

Прадугледжваецца, што чацвёртая сесія Вярхоўнага Савета БССР пройдзе з 21 мая па 11 чэрвеня.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета разгледзеў прапанову маладзечанскіх гарадскога і раённага Саветаў народных дэпутатаў аб правядзенні эканамічнага эксперымента ў гэтым рэгіёне, а таксама пытанне аб арганізацыі аховы гісторыка-культурнай спадчыны ў Беларусі.

(БЕЛТА).

## АБМЕРКАВАНЫ ПРАБЛЕМЫ МОЛАДЗІ

На чарговым пасяджэнні Камісіі ЦК Кампартыі Беларусі па пытаннях маладзёжнай палітыкі абмеркаваны праект Закона Беларускай ССР «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР». Адзначалася, што галоўнае прызначэнне закона—гэта стварэнне ў грамадстве неабходных умоў для раскрыцця патэнцыялу моладзі, прадастаўленне маладым людзям роўных з іншымі катэгорыямі насельніцтва правоў. Асаблівая ўвага была ўдзелена абароне інтарэсаў маладых людзей ва ўмовах рыначнай эканомікі. Камісія выказалася за паскарэнне прыняцця законапраекта.

Аб ходзе рэалізацыі ў вобласці рашэнняў XXXI з'езда КПБ па пытаннях маладзёжнай палітыкі ўдзельнікаў пасяджэння інфармаваў загадчык аддзела Віцебскага абкома Кампартыі Беларусі І. Сухамера.

Паведамленне аб праблемах умацавання супрацоўніцтва партыі і камсамола ва ўмовах многапартыйнасці зрабіў член камісіі, першы сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі А. Крыўдзенка. Прынята рашэнне правесці рэспубліканскую нараду першых сакратароў раённых і гарадскіх камітэтаў КПБ і ЛКСМБ па пытаннях далейшага паляпшэння работы з моладдзю.

**Прэс-служба ЦК КПБ.**

## У ДЗЯРЖЭКАНОМПЛАНЕ БССР І МІНФІНЕ БССР

Ажыццяўленне ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта СССР і пастановай Кабінета міністраў СССР рэформы розничных цэн, у належнай меры не ўвязанай з сацыяльнай абаронай насельніцтва, стварыла ў рэспубліцы напружаную грамадска-палітычную і эканамічную сітуацыю.

Улічваючы абвастрэнне матэрыяльнага становішча насельніцтва, Савет Міністраў БССР, нягледзячы на вялікі дэфіцыт бюджэту рэспублікі, прыняў звыш агульнасаюзных норм дадатковыя меры па сацыяльнай абароне жыхароў рэспублікі. Рэалізацыя іх дазволіць змякчыць сацыяльныя вынікі рэзкага павышэння рознічных цэн.

Дзяржэканомплан БССР і Мінфін БССР лічаць неабходным давесці да насельніцтва рэспублікі асноўныя паказчыкі, звязаныя з правядзеннем рэформы рознічных цэн і мерапрыемстваў па сацыяльнай яго абароне.

Сумы дадаткова атрымліваемай выручкі ад павышэння рознічных цэн вызначаліся па кожнай катэгорыі цэн (фіксаваныя, рэгулюемыя і дагаворныя). Пры гэтым на папярэдняй стадыі па фіксаваных цэнах сума вылічвалася па пэўнай наменклатуры тавараў зыходзячы з кошту па дзеючых цэнах і індэксаў цэн, паведамленых саюзнымі органамі. Пасля ўвядзення новых прэйскурантаў гэты разлік удакладнены па прэйскурантных цэнах і прыводзіцца (у млн. рублёў) па наступных таварных групах*).

| | У цэнах | | Павышэнне цэн | |
|---|---|---|---|---|
| | старых | новых | сума | працэнт |
| Харчовыя тавары | 3.136,97 | 8.397,15 | 5.260,18 | 167,7 |
| у тым ліку: | | | | |
| мяса і мясапрадукты | 1.076,38 | 3.322,91 | 2.246,53 | 200 |
| малако, малочныя прадукты, масла | 787,45 | 1.850,51 | 1.063,06 | 135 |
| хлеб і хлебапрадукты, уключаючы крупы і макаронныя вырабы | 519,54 | 1.558,62 | 1.039,08 | 200 |
| чай | 43,20 | 86,4 | 43,20 | 100 |
| цукар | 247,81 | 582,35 | 334,54 | 135 |
| соль | 6,12 | 20,81 | 14,69 | 240 |
| рыба і рыбныя тавары (без далікатэсаў) | 208,69 | 479,99 | 271,30 | 130 |
| алей, маргарынавая прадукцыя і маянэз | 98,41 | 196,82 | 98,41 | 100 |
| яйкі | 149,37 | 298,74 | 149,37 | 100 |
| нехарчовыя тавары | 2.119,67 | 4.980,79 | 2.861,12 | 134 |
| з іх: | | | | |
| тавары для дзяцей | 392,4 | 1.157,58 | 765,18 | 195 |
| тытунёвыя вырабы (без імпартных) | 209,8 | 314,70 | 104,90 | 50 |
| бялізна, адзенне, масавыя віды абутку | 1.323,02 | 3.158,02 | 1.835,00 | 135 |
| тавары культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння | 145,5 | 252,59 | 107,09 | 73,5 |
| мыла туалетнае і гаспадарчае | .48,95 | 97,9 | 48,95 | 100 |
| Разам па фіксаваных цэнах | 5.256,64 | 13,377,94 | 8.121,30 | 154,5 |

*) Разлік зроблены на аснове структуры тавараабароту за 1990 год.

Праводзімая рэформа рознічных цэн, як вядома, прадугледжвае прымяненне разам з фіксаванымі рэгулюемых і дагаворных цэн. Размер гэтых цэн вызначаецца па ўзгадненню вытворцаў тавараў і арганізацый гандлю. З улікам гэтага дадатковая выручка ад рэалізацыі тавараў па дагаворных цэнах у разліку на год прадугледжваецца ў суме 2,8 млрд. рублёў (100 працэнтаў), а па рэгулюемых — 2,3 млрд. рублёў (80 працэнтаў).

Павышэнне фіксаваных, рэгулюемых і дагаворных цэн на тавары народнага спажывання, рэалізуемыя насельніцтву рэспублікі, прагназіруецца ў разліку на год на 13,2 млрд. рублёў.

Павышэнне рознічных цэн не рабілася на медыкаменты і вырабы медыцынскага прызначэння, кофе, гарэлку, тканіны з сінтэтычных валокнаў і вырабы з іх, на выбляемыя з сінтэтычных матэрыялаў абутак, футравыя, трыкатажныя, панчошна-шкарпэткавыя вырабы і цацкі, на бензін, газу, электраэнергію, газ, пячное паліва і дровы, адпускаемыя насельніцтву. У вышэйуказаным прагнозе перавышэння рознічных цэн не ўлічваліся плодаагароднінная прадукцыя, бульба, а таксама прадукцыя іх перапрацоўкі, якія з восені 1990 года рэалізуюцца па дагаворных цэнах. Гэта датычыцца і ювелірных вырабаў, далікатэсаў, модных і прэстыжных тавараў, друкаваных выданняў і некаторых іншых тавараў.

Рост расходаў насельніцтва на платныя паслугі ў сувязі з павышэннем тарыфаў вызначаны ў суме 855,3 млн. рублёў і характарызуецца наступнымі данымі:

| | У цэнах | | Павышэнне тарыфаў | |
|---|---|---|---|---|
| | старых | новых | сума | працэнт |
| Паслугі транспарту | 586,7 | 1.214,0 | 627,3 | 106,9 |
| Паслугі сувязі | 181,2 | 217,4 | 36,2 | 20,0 |
| Бытавыя паслугі | 624,4 | 816,2 | 191,8 | 30,7 |
| Разам | 1.392,3 | 2.247,6 | 855,3 | 61,4 |

Такім чынам, дадатковыя расходы насельніцтва рэспублікі ў сувязі з ростам дзяржаўных рознічных цэн і павышэннем тарыфаў у разліку на год ацэньваюцца ў суме 14,1 млрд. рублёў, а з улікам аўтаматычна павялічваемага падатку з продажаў — 14,8 млрд. руб.

Паколькі новыя рознічныя цэны і тарыфы ўведзены з 2 красавіка г. г., павышэнне ў разліку на 9 месяцаў кошту рэалізуемых насельніцтву тавараў і аказваемых паслуг складзе 11,07 млрд. рублёў. З улікам ужо прынятых і распрацоўваемых рашэнняў урада БССР па ўзмацненню сацыяльнай абароненасці насельніцтва ўказаныя сродкі поўнасцю накіроўваюцца на падтрыманне матэрыяльнага становішча жыхароў рэспублікі.

Прадугледжваецца, што адмена абмежавання па базаваму фонду аплаты працы дасць магчымасць гаспадарча-разліковым прадпрыемствам і арганізацыям значна павысіць заработную плату сваім работнікам за кошт сродкаў, зароблены прадпрыемствамі. Не пакінута без увагі пытанне аб павышэнні заработнай платы работнікаў сацыяльна-культурнай сферы.

Істотную дапамогу ў параўнанні з агульнасаюзнымі нормамі атрымаюць сем'і, якія маюць дзяцей. Па рашэнню Савета Міністраў БССР адменены абмежаванні (гранічныя размеры даходаў на члена сям'і) на выплату дапамог і кампенсацый на дзяцей, у сярэднім у 1,7 раза павялічаны размеры кампенсацыйных выплат сем'ям у сувязі з ростам цэн на тавары дзіцячага асартыменту, вырашаны пытанні аб падзешаўленні харчавання студэнтаў і навучэнцаў, робяцца кампенсацыйныя выплаты жанчынам, якія знаходзяцца ў водпусках па догляду дзіцяці.

Адмена падатку з продажаў на харчовыя тавары (за выключэннем асобных відаў), падзешаўленне харчавання ў рабочых сталовых і шэраг іншых мер таксама ўмацуюць бюджэт сям'і.

У адпаведнасці з прынятымі рашэннямі на дадатковую аплату працы, павелічэнне пенсій, стыпендый, выплату дапамог і іншыя мэты па сацыяльнай абароне насельніцтва рэспублікі ў разліку на 9 месяцаў будзе выкарыстана больш чым 10 млрд. рублёў, у тым ліку:

| | млн. рублёў |
|---|---|
| працуючым на прадпрыемствах, у арганізацыях (незалежна ад форм уласнасці), установах, калгасах і саўгасах | 5.632,0 |
| непрацуючым пенсіянерам, уключаючы кампенсацыйныя выплаты інвалідам, ветэранам вайны і працы на расходы, якія датычаць сацыяльна-бытавых ільгот, у тым ліку набыццё транспарту, пратэзіраванне і г. д. | 1.117,9 |
| навучэнцам і студэнтам | 160,4 |
| на выплату дапамог сем'ям з дзецьмі | 2.011,4 |
| на падзешаўленне харчавання рабочых, студэнтаў і навучэнцаў | 705,0 |
| на кампенсацыйныя выплаты насельніцтву, якое пражывае ў раёнах, што пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, уключаючы бясплатнае харчаванне дзяцей | 410,0 |

Акрамя таго, з прычыны змянення ўмоў налічэння падаходнага падатку з заработнай платы сума сродкаў, што застаюцца ў распараджэнні працуючых, павялічыцца на 318 млн. рублёў.

За кошт бюджэту рэспублікі кампенсуецца павышэнне цэн на тавары, спажываемыя ў бальніцах, інтэрнатных і іншых бюджэтных установах, на 751,4 млн. рублёў, з іх на прадукты харчавання на 283,2 млн. рублёў, мяккі інвентар і абмундзіраванне — на 143,3 млн. рублёў, што з'яўляецца прамой кампенсацыяй насельніцтву.

Такім чынам, агульны размер кампенсацыі насельніцтву цяпер ацэньваецца ў 10.781,2 млн. рублёў, што амаль на ўзроўні змянення рознічных цэн. Гэта больш чым у 1,6 раза вышэй за сумы кампенсацый, вызначаных па гарантаваных мінімальных размерах, устаноўленых Кабінетам міністраў СССР.

Акрамя таго, як вядома, у выніку рашэння Савета Міністраў БССР аб адмене падатку з продажаў на шэраг тавараў і асобныя віды паслуг у распараджэнні жыхароў рэспублікі застаецца каля 500 млн. рублёў.

Увядзенне адзіных рознічных цэн на тавары, рэалізуемыя ў гарадах і сельскай мясцовасці, зніжэнне цэн на сокі, захаванне без змянення тарыфаў на асноўныя віды камунальных паслуг, аказваемых насельніцтву, дзеючых рознічных цэн на тарфяныя і торфавугальныя брыкеты, а таксама размеру платы бацькоў за ўтрыманне дзяцей у дашкольных установах, прыняцце некаторых іншых мер патрабуюць дадатковых расходаў бюджэту ў суме 560,1 млн. рублёў. Больш як 121 млн. рублёў неабходна на выплату розніцы паміж аптовымі і рознічнымі цэнамі на медыкаменты, рэалізуемыя насельніцтву і ўстановам аховы здароўя.

Работа па выяўленню магчымасцей для паляпшэння матэрыяльнага становішча насельніцтва працягваецца. Заканчваецца падрыхтоўка прапаноў па ўзмацненню сацыяльнай абароны работнікаў адукацыі, культуры і аховы здароўя, пенсіянераў і інвалідаў, некаторых іншых катэгорый грамадзян.

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

